# ПРАЗМЕРНАЕ ЎЖЫВАННЕ ПІВА І ЧЫТАННЕ ГАЗЕТ ШКОДЗІЦЬ ЗДАРОЎЮ!

piunaya.by




ISSN 2077-0308







№2 (4)

30 сакавіка 2010

Стар. 6-7

## Аляксандр Куллінковіч:

## "ПІВА ЛЮБЛЮ... ЛЮБІЎ І БУДУ ЛЮБІЦЬ"

# ЧЫЁ ПІВА

## прыводзіць да алкагалізацыі насельніцтва?




"У праблеме піўнога алкагалізму беларусаў вінаватае моцнае расійскае піва", – такое меркаванне выказаў у інтэрв'ю Belbeer.com спецыяліст аддзела інфармацыі і грамадзкіх стасункаў УУС Брэсцкага аблвыканкаму Анатоль Ціхан.



## Спакуслівыя фінкі

### Хто стаў на шляху нашых хакеістаў да золата?



Стар. 14

[актуалії]

## АДНЫМ ГЛЫТКОМ

### Штрафы



За першы месяц дзеяння новага адміністрацыйнага кодэксу за распіццё піва ў грамадскіх месцах па ўсёй краіне складзена ўсяго толькі 2,5 тысячы пратаколаў. З такімі тэмпамі, каб аштрафаваць усіх жыхароў, беларускай міліцыі спатрэбіцца каля 300 гадоў.

### Маршруткі



Прынята рашэнне Мінгарвыканкама аб павышэнні кошту праезду ў маршрутках на 20%. Мяркуецца, што пасажыры масава пачнуць перасаджвацца з маршрутак на аўтобусы і тралейбусы, што дапаможа звычайнаму транспарту выйсці на самаакупальнасць.

### Малако



Закупачныя цэны на малако павышаныя ў сярэднім на 10%, што павінна падтрымаць як вытворцаў малака, так і саміх буронак. Чакаецца, што гэта істотна не адаб'ецца на ўзроўні цэн на гатовую малочную прадукцыю.

### Беспрацоўе




Афіцыйны ўзровень беспрацоўя за люты ў Мінску склаў 0,4% эканамічна актыўнага насельніцтва, а сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі за гэты ж перыяд быў роўны 45000 рублёў. Спецыялісты лічаць, што калі знізіць узровень дапамогі да 0, то і ўзровень беспрацоўя таксама знізіцца да гэтай жа адзнакі.

### Вада



УП "Мінскводаканал" выступіла з ініцыятывай павялічыць для жыхароў сталіцы плату за вадаправодную ваду да яе сабекошту, амаль у 4 разы. Гэта павінна прывучыць насельніцтва да эканоміі. Вытворцы ж піва ўжо спадзяюцца, што спажыўцы аддадуць перавагу пеннаму напою.

### Нафта



Беларусь і братэрская Венесуэла падпісалі кантракт на пастаўку 4 мільёнаў тон нафты. Пробная партыя ў 80 тыс. тон прыбудзе ў траўні на танкеры ў Адзесу, а адтуль чыгункай на Мазырскі НПЗ. Пасля гэтага можна будзе ўжо абмяркоўваць пытанне пастаўкі газу самалётамі з не менш братэрскага Ірану.

## З вядомага бара "Сасок" збіраюцца зрабіць музей піваварства

# МІР МУЗЕЯМ, ВАЙНА ПІЎНЫМ?




Пустым і асірацелым выглядае наваколле славутага бара. А раней тут было не прабіцца да століка...

***Бармэн Мікалай:***
*"Да, бар закрывается с 10 апреля. Нас сокращают без последующего трудоустройства. Я уже привык к этому месту, хоть зарплата и не очень большая, но на хлеб хватало. Работа нравилась. Клиенты хоть и шумные иногда, но свои, родные… Музей?! (смеётся) Ну-ну, посмотрим"*

Гэты столік можна зрабіць першым экспанатам экспазіцыі пад назвай "Дапілі!"

**Што і казаць, няўдалым для аматараў піва выдаўся 2010 год. Адна забарона распіцця піва на вуліцы чаго каштуе. З іншага боку, меркавалася, што гэта прастымулюе буйных півавараў адкрываць танныя піўнухі – попыт на такія ўстановы павысіўся. Дзе там!**

Мы як заўсёды ідзем сваім шляхам. Вось і з "Аліварыі" дайшла да нас журботная навіна: зачыняецца адзіны піўбар, які знаходзіцца на вуліцы Багдановіча, вядомы ў народзе як "Сасок". Замест яго нібыта плануецца адкрыць музей. Справа, канешне, добрая. Але чаму ў ахвяру мусіць быць прынесены папулярны ў народзе бар – незразумела. Пагадзіцеся, не зусім лагічны крок кіраўніцтва завода. Ды што там казаць, наўрад ці начальству вядомы дух гэтага легендарнага месца. А як прыемна было там выпіць куфаль-другі "Мінскага бровару" ды закусіць варанымі яйкамі альбо бутэрбродам з селядцом. Часцяком там можна было пачуць замежную мову – гэта студэнты з ін'язу бахваліліся перад простымі наведнікамі сваімі ведамі. Бо шлях ад універа да "абшчагі" ляжаў акурат праз гэтую ўстанову. А колькі жыццяў працоўнага люду ўратаваў "Сасок" у тыя гады. Крамы ж адчыняюцца толькі а 8 раніцы, а ён ужо з 7 сардэчна запрашаў першых наведнікаў. Быў бы жывы сам Багдановіч, абавязкова напісаў бы з гэтай нагоды які-небудзь санет. Нам жа, паважаныя чытачы, застаецца толькі пусціць скупую мужчынскую слязу. А тыя, каму не абыякавы лёс гэтага бара, могуць зайсці ў апошні раз ды ўзняць келіх піва за ўпакой. Толькі трэба спяшацца – працаваць "Саску" засталося зусім нядоўга.

## Сабачая радасць



**Вядомыя ва ўсім свеце сваімі векавымі традыцыямі чэшскія піваvары зноў наперадзе ўсёй планеты. У пражскіх супермаркетах з'явілася адмысловае піва для сяброў чалавека. Цяпер да бясконцага спісу марак чэшскага бурштынавага напою дадалося сабачае піва "Бар-Кінг".**

На этыкетцы бутэлькі красуецца выява чэшскага Бобіка і надпіс вялікімі літарамі "піва для сабак". Зроблена гэта, каб гаспадар не перабліытаў і з бадуна не выжлукціў напой, што прызначаны выключна для хатніх гадаванцаў.

Безалкагольнае піва варыцца з выкарыстаннем соладу, мяснога булёну, зеляніны і гародніны. Па словах ветэрынараў, піва вельмі падабаецца сабакам і зусім не шкодзіць ім, таму што не ўтрымлівае дражджэй і іншых не пажаданых для арганізму жывёлы рэчываў. Каштуе "Бар-Кінг" усяго ўдвая даражэй за звычайнае "чалавечае" піва.

Такім чынам, чэшскія бровары забілі адразу двух зайцоў – і сабакам дагадзілі, і іх уладальнікам. Бо ўсім сабакаводам добра вядома, як не хочацца ісці на вуліцу выгульваць сабаку, калі там дождж ці снег. Альбо калі ў гэты час па тэлескрыні хакей ці Ліга чэмпіёнаў. Цяпер жа гэтая праблема аўтаматычна знікае. Замест вуліцы – наўпрост у бар. Сабе куфаль "Старапраменa" або "Гамбрынуса", а Бобіку – міску "Бар-Кінга". Застаўся толькі зусім невялічкі далікатны аспект – зрабіць у барах прыбіральні для сабак. Але, падаецца, чэшскія выдумшчыкі і з гэтым пытаннем справяцца.

## Калі краб на гары свісне

**У суседняй Расіі рыхтуецца да прыняцця новы тэхрэгламент на харчовую прадукцыю. Дзяржаўная дума ў другім чытанні павінна прыняць новы законапраект ужо ў красавіку, дзе асобны раздзел закону тычыцца гэтак званай "снэкавай групы" – чыпсаў, арэшкаў, "кірыешкаў" ды іншых жоўтых паласацікаў.**

А калі ўлічыць, што значная частка гэтага фастфуду дастаўляецца нам акурат ад усходняга суседа, то і для нас гэтая навіна з'яўляецца вельмі актуальнай. Не паспелі яшчэ дэпутаты пачаць дэбаты, а ўжо з'явілія праціўнікі новага кодэкса. Справа ў тым, што дакумент распрацоўваўся фактычна самімі ж вытворцамі. Прадстаўнікі грамадскасці таксама былі запрошаныя, але большасць іх прапаноў так і засталася прапановамі. Гэтак, чыпсаробы ды арэшкаводы адмовіліся пазначаць на этыкетках колькасць цукру, солі, тлушчу – усіх тых інгрэдыентаў, ужыванне якіх неабходна зменшыць. Вядома, напішы яны такое, ды яшчэ вялікімі літарамі, мала хто захацеў бы набыць гэтую "табліцу Мендзялеева". Па словах прадстаўнікоў асацыяцыі спажыўцоў, такі рэгламент – гэта фактычна адкат на дзесяцігоддзі назад. Але ж ёсць і станоўчыя моманты. Вытворцы павінны пазначаць дакладную інфармацыю пра складнікі. Напрыклад, усім вядомы чыпсы з чырвонай ікрой, але ж насамрэч ікрой там толькі пахла. Замест яе там глутамат натрыю ды вітамін Е – той які Е-225. Цяпер жа намалююць ікру будзе забаронена. Тое ж самае чакае і чыпсы, на якіх месяцца выявы смятаны, сыра, бекона ды іншых шашлыкоў. Ну і нарэшце, павінны будуць змяніць назву крабавыя палачкі, якія да крабаў маюць такое ж дачыненне, як кавы напой "Ячменны колас" да кавы. Ёсць канешне і іншае выйсце – рабіць крабавыя палачкі з сапраўдных крабаў, толькі каштаваць яны тады будуць як тая ж ікра.




# Ішоў трамвай дзевяты нумар...

**Пасля прыняцця закона аб забароне ўжывання піва на вуліцах простым аматарам стала вельмі цяжка знайсці нармальнае месца, каб сербануць куфальдругі любімага напою.**

Бары і рэстараны падыйдуць толькі для заможных наведнікаў, бо бутэлечка той жа самай бюджэтнай "Аліварыі" ці "Крыніцы" каштуе там у два, а то й тры разы болей. На параду міністра ўнутраных спраў арганізоўваць пры крамах культурныя месцы спажывання са столікамі самі крамы, відаць па ўсім, забілі вялізны шуруп. Што ж рабіць, спытаюць нашыя чытачы.

Адказ на гэтае пытанне прыйшоў з Фінляндыі. Што тычыцца ўжывання піва ды алкагольных і не вельмі напояў, то крэатыўнасці гарачых фінскіх хлапцоў можна толькі пазайздросціць. Днямі ў сталіцы Суомі Хельсінкі адкрылі паб на калёсах, ды не простых, а жалезных. Для гэтага згадзіўся старэнькі трамвай, які адпрацаваў на карысць муніцыпалітэту ажно 35 гадоў і перавёз не адзін мільён пасажыраў. Салон трамвая грунтоўна рэканструявалі: упрыгожылі чырвоным дрэвам, аксамітам і меддзю, а на задняй пляцоўцы ўсталявалі барную стойку. 30 месцаў для сядзення і яшчэ прыблізна столькі ж для стаяння ўтвараюць утульную сяброўскую атмасферу. Персанал складаецца з трох чалавек. Прафесійны бармэн і піўка халоднага нальле, і размову падтрымае. Прыгажуняафіцыянтка паднясе ваш заказ, не праліўшы ні кроплі. Ну а ветлівы кіроўца заўсёды аб'явіць прыпынак, каб разомленыя пасажыры не прапусцілі свой выхад. А прапусціць вельмі лёгка, бо піўны тур па сталіцы Фінляндыі займае больш за гадзіну. Вельмі папулярны гэты маршрут у турыстаў, бо праходзіць праз усе найбольш вядомыя архітэктурныя і гістарычныя помнікі: Цэнтральны вакзал, Алімпійскі стадыён, канцэртная зала "Finlandia", Музей сучаснага мастацтва і сабор Хельсінкі.

Не толькі турысты, але й простыя жыхары любяць праехацца на гэтым цуда-трамваі прыпынак-другі, альбо нарэзаць кружок падчас абедзеннага перапынку. Студэнты ж часцяком сачкуюць там нудныя лекцыі. А па дарозе з працы дамоў аматары гатовыя па паўгадзіны чакаць, прапускаючы звычайныя трамваі, толькі б дачакацца свайго любімага. Балазе пафарбавалі яго ў чырвоны колер, каб здалёк было відаць. А кіраўніцтва, гледзячы на такую папулярнасць, ужо задумваецца пусціць яшчэ адзін, а можа і некалькі такіх трамваяў.

Уявіце толькі, сядаеце вы на вакзале ў сямёрачку, каб да Серабранкі даехаць, а кандуктар вам замест білеціка прапануе бутэлечку піўка. Пусцілі б у нас такія трамваі – адбою ад наплыву пасажыраў не было б, літаральна за год Мінсктранс выйшаў бы на станоўчую рэнтабельнасць. Карацей, нашым чыноўнікам варта было б задумацца над падобнай прапановай. Тым больш і прыдумваць нічога не трэба – бяры ды й пераймай прагрэсіўны еўрапейскі досвед.

**Фіны маюць рэпутацыю галоўных булдосаў Еўропы. Не дзіва, што менавіта ў Хельсінкі з'явіўся трамвай, у якім не толькі не забаронена піць піва, а яго там адмыслова прадаюць!**



**"Гэй, бармэн, налі дзве шклянкі! Едзем мы да Серабранкі". Пакуль мінчукам пра такі сэрвіс даводзіцца толькі марыць.**




***АКТУАЛЬНАЕ ПЫТАННЕ***

## У Мінску з'явіцца 30 пабаў

**У якасці своеасаблівай кампенсацыі страт ад забароны распіцця піва ў грамадскіх месцах Мінгарвыканкам наважыўся прапанаваць вытворцам піва 30 памяшканняў пад пабы.**

Па шчырасці, падобную прапанову варта было зрабіць задоўга да ўвядзення забароны, што дазволіла б не толькі піваварам, але й прадстаўнікам малога бізнэсу загадзя падрыхтавацца да кардынальных зменаў умоў гаспадарчай дзейнасці. Хоць і з тармажэннем, але ўсё ж гэта добрая навіна напярэдадні вясноваletняга піўнога сезону.

"Мінгарвыканкам прапанаваў каля 30 месцаў для адкрыцця ў сталіцы піўных рэстаранаў, бараў, кавярняў... Чакаем зваротнай сувязі", – сказаў на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні Мінгарвыканкама. У той сама час ён не пазлічвае на бурную рэакцыю з боку бізнэсу: "Калі не 30, то каля 10 аб'ектаў да канца года мы будзем мець у Мінску". Такім чынам, аматары піва могуць спадзявацца, што ў сталіцы неўзабаве будзе вырашацца пытанне з піўным дасугам, і нарэшце з'явіцца сетка даступных піўных бараў. Але ці можна параўнаць 30 пабаў з колькасцю лавачак, якія пустуюць сёння ў скверах сталіцы?

[рэфлексіі]




# Даеш піва!

**У 20-я гады недальнабачная палітыка Белага дома ў дачыненні піва сталася прычынай Вялікай дэпрэсіі. Самы час задумацца тым, у чыіх руках зараз лёс нашай Бацькаўшчыны!**

## ЯК ПІВА НАЗАВЕШ, ГЭТАК ЯНО І П'ЕЦЦА




**Савецкія часы запомніліся нам не толькі электрыфікацыяй ды калектывізацыяй, але і татальным перайменаваннем усяго і ўся. Асабліва гэта тычылыся населенных пунктаў. Сароміліся нашыя ўлады немілагучных назваў. Рознага кшталту Цыцкавічы станавіліся Чырвонай Воляй, а райцэнтр Прапойск росчыркам пяра правадыра народаў стаў Слаўгарадам.**

А вось жыхары адной забітай аўстрыйскай вёскі вырашылі наадварот зрабіць з ненарматыўнай назвы турыстычны культ. А называецца іхняя вёска – Fucking. Панямецку гэта гучыць нармальна, а вось на мове Шэкспіра і Байрана крыху рэжа вуха. (Не будзем даваць пераклад, каб не ставіць пад сумнеў веданне нашымі чытачамі гэтых шырока ўжываных на Захадзе слоў.)

Да такой высакароднай справы падключыліся прадпрымальныя півавары з братэрскай Германіі. Сумесна з нямецкімі півамарамі быў выраблены адмысловы гатунак піва пад назвай "Fucking Hell" (Hell з нямецкай можна перакласці як "светлы", адпаведна піва "Фукінг светлы").

Улады Еўрасаюзу спачатку не хацелі рэгістраваць такі правакацыйны лагатып, але пад ціскам нанятых адвакатаў вымушаны былі здацца. Як паведаміў прадстаўнік піваравар: "Магчыма, у чыноўнікаў з патэнтнага бюро адзін бруд у галаве". Так што цяпер любы грамадзянін Еўрапейскай супольнасці можа набыць бутэлечку-другую "Фукінгскага светлага».

## Мадонна будзе рэкламаваць новае піва ад AB InBev

У той час, як рабочыя бельгійскага аддзялення глабальнай піваварнай кампаніі Anheuser-Busch InBev страйкуюць з-за нізкіх заробкаў, кіраўніцтва апошняй заключыла кантракт з папулярнымі спявачкамі – Мадоннай і Ніколь Шэрзінгер – умовы якога вызначаюць, што спявачкі возьмуць удзел у рэкламнай акцыі аднога з прадуктаў карпарацыі – бразільскага піва "Brahma", прамога канкурэнта "Devassa". Такім чынам, бразільскі рынак піва зараз нагадвае поле бою, на якім уступіла ў дзеянне цяжкая артылерыя з абодвух бакоў – амерыканскія свецкія львіцы: Мадонна ў звязцы з Ніколь ды Пэрыс Хілтан з іншага боку.

## Пэрыс Хілтан знялася ў рэкламе бразільскага піва. Хатнія гаспадыні раз'юшаныя.



Чарговым скандалам скончылася запрашэнне вядомай амерыканскай ксеніі сабчак – Пэрыс Хілтан для здымкаў рэкламнага відэароліка для бразільскага піва "Devassa". Не паспелі пачацца здымкі першых дубляў роліка, як зорка набухалася гэтым півам у хлам. У выніку бразільскі сакратарыят па справах жанчын патрабуе зняць з эфіра рэкламу піва "Devassa" з яе ўдзелам, бо рэклама атрымалася "загарачай для грамадскага тэлебачання". Сапраўды, які мэсэдж нясе ў такім роліку поп-зорка?..

**Гламурная дзіва перад і пасля здымачнай сесіі рэкламнага роліка бразільскага піва "Devassa". Які прыклад яна можа паказаць будучым маці?**



**ВЯЛІКДЗЕНЬ**

## Піўко да яйка

Чэшская кампанія "K Brewery" пачала выраб унікальнага прадукта – двухколернага піва пад назвай "Велікоднае яйка" ("Velikonoční Krasličák"). Зялёна-бурштынавае піва можна пакаштаваць толькі ў некалькіх рэстаранах Прагі. Яго можна змяшаць у адным куфлі, прычым зверху яно будзе зялёным, а знізу – цёмна-бурштынавым.

Усе кампаненты разгавейнага напою з'яўляюцца натуральнымі – аніякай, барані Божа, хіміі! Каляровая гама дасягаецца шляхам іх змешвання.

Такім чынам аказалася, што піва, як і яйкі, можна фарбаваць у розныя колеры. Застаецца толькі ўвесці адпаведную традыцыю: замест біцця яек "на пабедона", прапануецца рубіцца куфлямі з велікодным півам. Але не да разбіцця куфля! Сэнс перамогі будзе заключацца ў тым, каб менш змешваліся колеры піва. У чым куфлі застануцца два колеры – той і пераможа (выпівае піва прайграўшага), а той, у каго бурда ў сасудзе – ідзе змагацца на яйках.

## Піва ў цэлафане

Няўрымслівая фантазія кітайскіх дызайнераў зноў бярэ чарговыя вышыні ў галіне ўпакоўкі і этыкеткі. Да ўжо звычных бутэлек, бляшанак, ПЭТаў ды кегаў у якасці пакунку для піва кітайцы дадалі яшчэ адзін – паліэтыленавы пакет. Цяпер кожны нашчадак Мао Цзэ-дуна ўжо не парыцца, як пасля працы зачапіць з сабой разліўнога піва. Прама на разліўняку вам нальюць да трох літраў піва ў адмысловы паліэтыленавы пакет-майку з лагатыпам бровара. Аднак чарговая кітайская навінка, як заўжды, мае пах плагіяту. Усе мы ведаем, што разліваць піва ў паліэтылен прыдумалі савецкія людзі ў цяжкія часы перабудовы. Нажаль сёння гэтая традыцыя ў нас сышла ў нябыт. А вось нейкі былы кітайскі студэнт савецкай ВНУ зрабіў на сваім ноў-хаў добры гешэфт.

Вось так, хутка і зручна можна ўзяць разліўнога дахаты. І не трэба шукаць для піва пустыя паўтарачкі!

Вось, сантэхніка выклікала, праставонам затарылася – дык ён, зараза, не п'е!

Месца пад куфаль піва

# Пенны магарыч

## Аўстралійскае піва стала вадкай валютай краіны

**Новае аўстралійскае піва Tooheys New нядаўна абвесціла сябе ні многа ні мала валютай піўной эканомікі. Яно прапануе разумець словы "З мяне праставон" як абяцанне расплаціцца за паслугі півам – і менавіта гэтай маркі.**

Як кажуць, усё новае – гэта добра забытае старое. Вось і з гэтай ініцыятывы патыхнула нечым да болю знаёмым і родным. Асабліва ў гэтыя вясновыя дзянькі. Хто з нас не памятае, як літаральна 15-20 гадоў таму падобную функцыю валюты выконвала бутэлька гарэлкі. Што раллю ўзараць, што дровы пакалоць, што парсючка разабраць – усяму была адна цана: яна, радзімая.

Аўстралійскія піввары прачухалі гэты прыкол. Усе рэкламныя ролікі наўпрост кажуць: плаціцебярыце півам. На сайце піва можна прама раздрукаваць піўное абавязацельства, дзе ўказваецца, які канкрэтна пакунак Tooheys New абяцае выдаць эмітэнт за аказаную яму паслугу. Акрамя тэлевізійных ролікаў сайт утрымлівае піўны калькулятар, які падлічвае, колькі піва каштуе тая ці іншая паслуга.

Адзінае, што мы гэтак і не даведаліся, гэта колькі ж трэба праставіць піва Tooheys New, каб усё ж узараць агарод ды пакалоць дровы.

## Кватэрнае пытанне: каморка таты Чарльза

**Днямі ў Лондане выставілі на продаж самую маленькую кватэру. Яе плошча складае 5,6 квадратных метраў. Мала таго, у ёй цэлых два пакоі, прыбіральня і гардэроб. Раней гэта была гаспадарчая каморка, але ў сярэдзіне крызісных 80-х яе перарабілі ў кватэру.**

Усё б нічога, калі б не цана, якую запрасіў за сваю кануру яе ўладальнік Чарлі Джонс – 200 тысяч фунтаў. Гэта каля £35000 за квадратны метр – прыкладна столькі зараз каштуе аднапакаёвы хрушч у Мінску. Па словах гаспадара, яго жытло мае шмат пераваг перад звычайнай кватэрай. Прыбіранне яе займае ўсяго некалькі хвілін, зборы на працу таксама не адбяруць шмат часу. Але галоўнае, гледзячы па тэлевізары Лігу чэмпіёнаў, можна адначасова лезці ў халадзільнік па піўко, не ўстаючы з канапы! Дастаткова толькі руку працягнуць. Аднак гэта толькі для зажраўшыхся англічан такая маленькая плошча выклікае непаразуменне. Нашыя студэнты па пяць гадоў жывуць прыкладна ў такіх сама ўмовах, ды яшчэ і ўтрох. І пры гэтым умудраюцца і піва піць, і чырвоныя дыпломы атрымліваць.

Месца пад скрыню піва хапае!

[дыялогі]

Я – ахотнік, ты – сайгак

Не! Я – ахотнік, ты – сайгак!

## Топ-5 ад Куллінковіча



1 “Złoty” моцнае светлае



2 “Dock” светлае



3 “Tuborg” Extra



4 “Бобров” светлае



5 “Аліварыя” безалкагольнае

*Аляксандр Куллінковіч:*

# ПІВА ЛЮБЛЮ... ЛЮБІЎ І БУДУ ЛЮБІЦЬ!

**Апошнім часам гурт “НЕЙРО ДЮБЕЛЬ” шмат канцэртуе, заўважна больш, чым літаральна пару гадоў таму. Зусім нядаўна “дзюбеля” справілі дваццатае нараджэнне, а 1 красавіка ў клубе “Реактор” граюць вялікі сольны канцэрт, прысвечаны 15-годдзю альбома “Умные Вещи”. Таму рэдакцыя газеты “Піўная” вырашыла, што самы час пагутарыць з асновай гурта – Аляксандрам Куллінковічам і Юрыем Навумавым, задаць ім пару пытанняў дый даведацца, чым жывуць, што п’юць.**

– Я памятаю “НЕЙРО ДЮБЕЛЬ”, напэўна, гадоў 12 таму, тады вы яшчэ рэпетавалі ў падвале ў пары двароў ад мяне на Камароўцы, не было Інтэрнэту, музыка распаўсюджвалася па

раёнах. Потым, нашмат пазней, з-за абвінавачання ў "сувязях з апазіцыяй" вы не маглі граць канцэрты. А апошнія пару гадоў вас можна пабачыць на ўсіх цэнтральных беларускіх тэлеканалах. Як такое здарылася?

**Навумаў**: Таму што мы крутыя! (смех)

**Куллінковіч**: Неяк ужо нудна і глупа пра гэта гаварыць, пра тое, што мы сустрэліся з Праляскоўскім, што мы сказалі: "Мы больш не будзем граць пад сцягамі апазіцыі…" Наогул нецікава, шчыра кажучы. Я ўсім казаў: "Хлоцы, хадземце граць на канцэртах на Бангалоры, там яшчэ на чымсьці", – і нас "забаранілі". Гэта было кепска. Потым нас "дазволілі". Ды ўвогуле недарэчнае пытанне, якое такую аскоміну набіла, што лепш бы пра творчыя планы…

– Добра. Ці магчыма жыць за кошт музыкі ў Беларусі?

**К**: Канешне ж магчыма.

– А "НЕЙРО ДЮБЕЛЮ"?

**К**: А нам – не. Мы гурт не карпаратыўны.

**Н**: Большасці рок-музыкаў гэта нерэальна. Ёсць у Беларусі такое паняцце: фармат і нефармат. Ёсць людзі, якія проста ліжуць камусьці зад і граюць. А мы нікому ніколі зад не лізалі. Таму й не жывем за кошт музыкі.

**К**: І не будзем лізаць нават за вельмі вялікія грошы.

– Але чым вы займаецеся паза музыкай, каб зарабіць на жыццё?

**Н**: Я працую ў кіно, здымачныя справы, усё што звязана са здымкамі тэлеперадач, кінафільмаў. Я ў гэтай сферы працую.

**К**: Мая работа – Інтэрнэт. У гітарыста нашага свой бізнэс. Андрэй Сцепанюк, барабаншчык – таксіст.

– Музыка для вас – гэта сацыяльная рэч? Што вы хочаце данесці людзям?

**К**: Нічога. Мы граем музыку. Данесці? Гэта да прыбіральшчыцы, напэўна. (Смех) Мы нешта граем, па струнах б'ем, нешта вапім. Мы бачым твары, і гэтыя твары даюць нам зразумець, што мы нешта даносім. Даносім.

– Якая музыка больш за ўсё ўплывала і ўплывае на вас, на вашую творчасць?

## Завязваць піць піва – гэта момант слабасці

## А ў мяне дасюль працягваецца гэты "перыяд слабасці"



**К**: Шчыра кажучы, ужо нічога не ўплывае. Мы вельмі старыя, старыя пердуны. Тое, што паўплывала – DEAD KENNEDYS, Пётр Мікалаевіч Мамонаў, MOTORHEAD.

– Не сакрэт, што за ўвесь гэты час было выпіта вельмі шмат піва (і не толькі). Як зараз з гэтым?

**К**: Піва люблю… Любіў і буду любіць!

– Але быў момант, што вы катэгарычна завязалі…

**К**: Гэта былі моманты слабасці.

**Н**: А ў мяне дасюль працягваецца гэты "перыяд слабасці". І думаю, што будзе працягвацца яшчэ вельмі доўга. Я зразумеў, я проста здохну, калі буду бухаць далей. Вось і ўсё.

– А як творчасць лепш ідзе? У плане рэпетыцый, канцэртаў. З піўком ці па цвярозасці?

**Н**: Я раней увогуле не разумеў, як выйсці на сцэну, не прыняўшы чаго-небудзь на душу. Для мяне гэта было проста не зразумела. Памятаю, калі я першы раз выходзіў на сцэну цвярозы для мяне гэта было так стромна, быццам я ўваходзіў на сцэну першы раз увогуле. А потым, ведаеш, стала зразумела, што мне лепш граць канцэрты на-цвяроза, чым пад градусам. Нашмат лепш. Карацей, мне час быў завязваць, і я завязаў.

**К**: А мая гісторыя… нехарошая. Мой кумір – гэта безалкагольнае піва "Аліварыя". Але я зрываюся вельмі часта.

– **Што пажадаеце напаследак чытачам "Піўной"?**

**К**: Славы і багацця.

**Н**: Слухайце "НЕЙРО ДЮБЕЛЬ"!

Гутарыў
**Валера Халера**




**Вокладка легендарнага магнітаальбому "Умные вещи (The best)"**

# "НЕЙРО ДЮБЕЛЬ"

**Рок-гурт з Мінску, які выкарыстоўвае мноства стыляў – ад рэгі і блюзу да хард-кору.**

**Заснаваны ў 1989 годзе Аляксандрам Куллінковічам і Генадзем Агейчыкам, які пазней пакінуў гурт.**

**Першае з'яўленне на сцэне адбылося на адкрыцці "Астролябии-Шоу" 4 кастрычніка 1991 г.**

**У 1995 годзе быў запісаны першы студыйны альбом (падвойны) "Умные Вещи (The Best)", які дагэтуль большасцю фанаў лічыцца лепшым.**

**У 1998 годзе на "Рок-каранацыі" "Нейро Дюбель" атрымаў галоўны прыз – Рок-Карону, акрамя таго гурт перамог у намінацыях: "Лепшая песня года" ("Охотник и Сайгак"), "Лепшы альбом года" ("Охотник и Сайгак"), "Лепшы кліп года" ("Охотник и Сайгак").**

**На апошняй "Рок-Каранацыі" гурт атрымаў спецпрыз "За адданасць рок-музыцы".**

**Месца пад куфаль піва**

# НАПАЛМ-ДЭЗУ НЕ БАІМСЯ...




**Суровыя брытанцы адмовіліся ад пі-ару па-рамштайнаўску.**

**Нешта зачасцілі апошнім часам у Сінявокую сусветныя метал-зоркі ды іншыя музычныя вычварэнцы. Аднак на гэты раз яны, відаць не прадстаўляюць пагрозы для беларускай маральнасці. Прынамсі так можна зразумець з шматзначнага маўчання славутага Камітэту па справах маральнасці.**

Вось і славутыя брытанскія грайнд-коршчыкі з NAPALM DEATH не змаглі праехаць міма, каб не паспрабаваць замахнуцца на маральнасць маладой беларускай парослі. Як вядома, на цяжкой сцэне яны маюць такую рэпутацыю, што RAMMSTEIN на іх фоне выглядае як Юра Шатуноў на фоне Аляксандра Саладухі. Напрыклад, напалмерам належыць рэкорд хуткасці барабанаў: 20 удараў у секунду (1200 удараў у хвіліну), а кампазіцыя «You Suffer» была занесеная ў "Кнігу рэкордаў Гінэса", як самая кароткая песня на свеце – 1,316 секунды. Толькі гэта ніколькі не напужала членаў камісіі па маралі. Тут напрошваюцца дзве версіі. Альбо нашыя маралісты зусім не рубяць у грайнд-коры, альбо, страшна падумаць, з'яўляюцца тайнымі фанатамі цяжкога року.





# Пара на хэві-метал-пенсію

Не паспелі вушы меламанаў адпачыць ад RAMMSTEIN, як Мінск-Арэна прымае яшчэ адзін сусветна вядомы нямецкі гурт – SCORPIONS са сваім развітальным турам. Перад выхадам на пенсію Скарпы вырашылі прачухаць постсавецкіх фанатаў, каб назбіраць капеек на сацыяльныя пакеты для ветэранаў хэві-метал-року.

[фотасесія]



# Graffiti: чароў

## Піўная карта

**РАЗЛІЎНОЕ ПІВА:**
"Tuborg Green" светлае
**4.600 – 0,33 л**
**6.960 – 0,5 л**
"Tuborg Green" з сіропам "Grenadine"
**10.890 – 0,5 л**
"Невское" нефільтраванае
**4.040 – 0,33 л**
**6.120 – 0,5 л**

**БУТЭЛЬКАВАЕ ПІВА:**
"Corona Extra" светлае, Мексіка
**9.930 – 0,33 л**
"Gambrinus" светлае, Чэхія
**12.280 – 0,5 л**
" Grolsch" светлае, Галандыя
**15.290 – 0,45 л**
" Leffe Brown" цёмнае, Бельгія
**10.940 – 0,33 л**
" Paulaner Hefe-Weissbier" нефільтраванае, Германія
**14.050 – 0,5 л**
" Pilsner Urquell" светлае, Чэхія
**9.770 – 0,33 л**
"Svyturys Baltijos" цёмнае, Літва
**8.980 – 0,5 л**
"Svyturys Baltas" нефільтраванае, Літва
**8.990 – 0,5 л**
"Svyturys Extra" светлае, Літва
**8.980 – 0,5 л**
"Svyturys Extra Draught" светлае, Літва
**9.270 – 0,5 л**
"Velkopopovicky Kozel Dark" светлае, Чэхія
**12.200 – 0,5 л**
"Kaltenberg" светлае, Беларусь
**4.270 – 0,5 л**
"Kult" цёмнае, Беларусь
**3.710 – 0,5 л**
"Kult" светале, Беларусь
**3.710 – 0,5 л**
"Крыніца Экспартнае" Беларусь
**3.590 – 0,5 л**
"Балтика 0" Расія, безалкагольнае
**4.680 – 0,5 л**

**Усе павінны яшчэ памятаць папулярную ў дзевяностых стратэгію Heroes, за якой многа хто бавіў час з сябрамі пад бутэлечку піваса, гуляючы па чарзе на адным кампе. Здавалася б, зусім нядаўна было, а як састарэла ўжо гучыць.**

Цяпер падключаем фантазію і ўяўляем, што мы ўсе знаходзімся ўнутры такой жа стратэгічнай гульні, толькі антураж іншы - навокал тыповы савецкі індастрыял: каробкі шматкватэрных дамоў, дымячыя трубы фабрык і заводаў, шчарбаты асфальт на дарогах, дзіцячыя пляцоўкі - рознакаляровы крэатыў апухшага зваршчыка...

І вось вы ідзеце дзесьці ў раёне Севастопальскага парка ў пошуках душэўных артэфактаў, але ўсё ж падспудна адчуваеце, што тут ужо мала што надыбаеш - бачна, што канкурэнты ўжо аблазілі гэтыя мясцовасці ды і іншыя перыферычныя куткі роднай сталіцы і ўсе больш-менш прыдатныя рэчы даўно пазбіралі. Адзіная надзея - гэта знайсці праход у іншы мір, іншую існасць, дзе вам ніхто не заміне набрацца моцы, падняць узровень маралі да максімуму. І такі ўваход ёсць! Хоць ён добра замаскіраваны - звычайны будынак па равулку Калініна, нічога прыкметнага, такіх у Мінску хоць гаць гаці. Хто б мог падумаць, што менавіта тут, на першым паверсе, месціцца гэты чароўны партал - клуб "Графіці".

Вядомы ён не кожнаму, толькі пазітыўныя прадзвінутыя "героі" могуць прыпасці да яго цудадзейнай крыніцы і атрымаць духоўны зарад маны ў выглядзе пары-тройкі куфаляў піва, альбо музона.

Джаз, рэгі, чылаўт, рэтра, блюз, рок'н'біт, фанк - гэта толькі няпоўны пералік таго, што можна тут паслухаць у загадкавым паўзмроку клуба разам з разнастайнымі істотамі ды тыпамі, якія з чарцінкай у вачах глядзяць на вас з размалёваных сцен. Часам мож-






на апынуцц...
эпіцэнтры п...
на-аптымісты...
форманса, ал...
на канцэрт як...
заезджага
Гурты з Расіі ...
Jah Division, ...
вяць, 7 Раса...
PlachMacho),
Costello), Укр...
жы), Латвіі ...
Peek), Літвы ...
Suicide DJs), а...
блюзмэн Alas...
джазавыя ...
Эллен Ме...
Бразіліі ці Тэ...
Нью-Ёрка, а...
андэграўндны...
беларускіх ...
тут ужо здоле...
што музыка...
мець межаў.
Але адзіна...
інтарэсы нав...
ба не абмя...
Модная на...
дзень гулы...
таксама прац...
А тыя, хто не...



Месца пад куфаль піва

# ...уны партал

...а ў самым ...аранаідаль... ...чнага пер... ...ьбо трапіць ...ога-небудзь ... калектыва. ...(Billy's Band, ... Барто, Дзе... ...а, 5 pence, ... ЗША (Dan ...раіны (Мар... ...(The Twins ... (Migloko & ...амерыканскі ...ska Kalanen, ... выканаўцы ...ндонса з ...сса Сутэр з ...маль увесь ...ы "Парнас" ... выканаўцаў ...елі даказаць, ... не можа

...й музыкай ...еднікаў клу... ...жоўваюцца. ... сённяшні ...ня "Мафія" ...ісалася тут. ...е гоніцца за модай, могуць узяць на бары шашачную дошку ды згуляць у Чапаева (вядомыя з дзяцінства пстрычкі). Удзень жа можна нетаропка паснедаць у кампаніі калег, а ўвечары замовіць столік і адсвяткаваць дзень нараджэння ці якія іншы шумны гуллівы повад. І, канешне, нельга абысці ўвагай прыкуску пад піва "Канверты" - фірмовая фішка клуба – бутэрброды, запечаныя пад сырам, смачна і нядорага.





"Канверты" – самая папулярная страва наведнікаў клуба



## ПІЎНАЯ АФІША АД КЛУБА "ГРАФІЦІ" 1.04 – 18.04.2010

**Чц, 1 красавіка**
19:00 – Trash: Rocker Jocker vs Сяргей Пукст

**Пт, 2 красавіка**
19:00 – Ska: гурт "Йо–Йо"
23:00 – FoF: Elate & Chant Charmant

**Сб, 3 красавіка**
13:00 – Гуляем у «Кракадзіла»
18:00 – Blues: гурт "Madera Hard Blues"
23:00 – Stay Positive: DJ Zelenkevich & Vadim Key

**Нд, 4 красавіка**
02:30 – Stay Positive: DJ Zelenkevich & Vadim Key
18:00 – L–party

**Пн, 5 красавіка**
19:00 – "Жывы панядзелак"

**Ат, 6 красавіка**
19:00 – Graffiti Open Music Fest: NicePrice, Doom Dance, Floor Sixteen

**Ср, 7 красавіка**
19:00 – Jazz: «First Sky Floor» (Канстанцін Гарачы, Аляксей Малахаў, Віталь Золатаў, Цімафей Бірукоў)

**Чц, 8 красавіка**
19:00 – TrashRock: гурт "Разбітае Сэрца Пацана"

**Пт, 9 красавіка**
18:00 – Rock: гурт "Існасць" і гурт "Ребус Нелишних"
23:00 – FoF: DJ Laurel & Eye–Q

**Сб, 10 красавіка**
14:00 – Cinema: "Нянавісць"
18:00 – Blues: гурт "Крама"
23:00 – Drink'n'Dance Party

**Нд, 11 красавіка**
14:00 – "Ісус Хрыстос – суперзорка"
19:00 – Reggae: Botanic Project
23:00 – Cosmic Deep Sex Divers: Induss, Gaamer, Fila

**Пн, 12 красавіка**
13:00 – Гуляем у "Кракадзіла". Тэма: "Касманаўтыка"
19:00 – Acoustic: PRANA (Брэст)
23:00 – Space Night: DJ Kendoo & friends

**Ат, 13 красавіка**
02:00 – Space Night: DJ Kendoo & friends
15:00 – The Queen: Live At Wembley Stadium 1986
19:00 – Graffiti Open Music Fest: California Shores, MoZart, The Road Dogs

**Ср, 14 красавіка**
19:00 – Jazz: Уладзімір Міхновіч і Со з новай праграмай

**Чц, 15 красавіка**
19:00 – Tribute to The Beatles: гурт "Artefact" & гурт "Love is..."

**Пт, 16 красавіка**
19:00 – Віктар Шалкевіч
23:00 – FoF: Jam CherryVata Crew 5.0

**Сб, 17 красавіка**
13:00 – Гуляем у "Мафію"
18:00 – Blues: гурт "Cross.B.Band"
23:00 – Balkan Beat: Papa Bo Selektah & DJ Gips

**Нд, 18 красавіка**
02:00 – Balkan Beat: Papa Bo Selektah & DJ Gips
13:00 – Гуляем у «Чапаева» і другія гульні
19:00 – Зьміцер Вайцюшкевіч

[біраманія]

# Das Reinheitsgebot: Праўда і мана пра чысціню піва

**Шмат хто з аматараў піва і не толькі чулі пра баварскі "Закон аб чысціні піва" (Das Reinheitsgebot'1516), але мала хто чытаў яго цалкам. З гэтым звязана памылковае, але вельмі распаўсюджанае меркаванне, што ён перш за ўсё рэгламентаваў склад "сапраўднага" піва, стварыўшы ўсім вядомую формулу – "солад, хмель і вада". І практычна на ўсім піве, звараным у Германіі, пазначаецца, што яно нібыта зваранае ў адпаведнасці з гэтым самым законам.**

Лічыцца нават, што «Закон аб чысціні» – найстарэйшы закон, які абараняе правы спажыўцоў і з'яўляецца гарантыяй якасці піва. Але ці так гэта? Дзякуй богу, што Сярэднявечныя заканадаўцы ў гэтым сэнсе не былі шматслоўнымі, таму варта ўважліва прачытаць дакладны і поўны пераклад тэксту гэтага закону. *(Пераклад тэксту глядзіце ніжэй.)*

Як можна пераканацца, закон перш за ўсё рэгулюе коштаўтварэнне на піва. І няма сумневу, што ў гэтай частцы яго ніхто не выконвае. (Дзе цяпер у Германіі можна купіць літр піва за пфеніг (паўеўрацэнта па курсе абмену?) Ды і самі пфенігі з прыходам еўра сцерліся з памяці ...

Менавіта гэты закон стаў правобразам утварэння гэтак званых "нацэначных катэгорый". Аказваецца, півавар не мог прадаваць свой прадукт даражэй за пфеніг, а дармаед-тракціршчык, па сутнасці нічога не робячы, спакойна мог накруціць 25% і ўцюхваць спажыўцам – тым жа сялянам, якія і вырошчвалі гэты самы ячмень. Вядома ж, вытворцы піва, убачыўшы магчымасць падкалыміць за кошт простага люду, таксама адчынялі свае "пастаялыя двары", каб прадаваць піва з накруткай. Вядома ж, афармлялі іх на падстаўных асоб, а ўвесь заробак выводзілі ў тагачасныя афшорныя зоны – Саксонію ды Ганзейскія гарады. Вось з-за такіх складаных схем піва станавілася ўсё даражэй, вынікам чаго стаў віток інфляцыі памерам амаль у 900% (На апошнім Актобэрфэсце ў Мюнхене масс каштаваў 8,60 еўра!)

У частцы «чысціні» складу піва таксама не ўсё чыста. Закон абавязвае выкарыстоўваць менавіта ячмень – увесь сэнс дадзенага ўказу быў як раз у забароне марнаваць каштоўную ў тыя галодныя часы пшаніцу на піва. Аднак гэта чамусьці не замінае пісаць на ўсім нямецкім пшанічным піве, што яно нібыта адпавядае Reinheitsgebot (забаўна, што савецкі ГОСТ у гэтым пытанні салідарны з баварскім законам – піва па ім варыцца выключна з ячменнага соладу, хоць той жа ГОСТ не забараняе выкарыстоўваць любыя злакі, але ў выглядзе несалоджанага кампанента затору). Ды і ніякае піва зараз не варыцца без чацвёртага неабходнага кампанента – дрожджаў. Вядома ж, і раней без дрожджаў не абыходзілася – але іх спецыяльна не дабаўлялі (бо ў тыя часы баварскія заканадаўцы проста не ведалі пра іх існаванне), а закісанне пачыналася самаадвольна, з дапамогай «дзікіх» дрожджаў.

Так што ганарлівы надпіс – "зварана ў адпаведнасці з баварскім законам аб чысціні піва" – гэта па большай частцы рэкламны ход. Пэўныя камерцыйныя бровары, якія дбаюць толькі аб прыбытку, вараць нясмачную бурду ў незалежнасці ад наяўнасці альбо адсутнасці абмежаванняў, якія фармальна накладаюцца «Законам аб чысціні». Наўрад ці можна пагадзіцца з тым, што фільтраванае, пастэрызаванае піва, якое ледзь-ледзь пабывала ў лагеры, а затым было адпраўленае недалёкаму або нядбайнаму кліенту, можа называцца «чыстым» півам выключна на той падставе, што ў заторы выкарыстоўвалі толькі ячменны солад.

Многія недалёкія людзі, не думаючы аб наступствах, прапаноўваюць увесці Reinheitsgebot на ўсёй тэрыторыі Еўрасаюзу ў якасці стандарта. Якой катастрофай гэта можа абярнуцца для разнастайнасці і асартыменту аматараў піва! Бельгійскія фруктовыя гатункі і гатункі з вострымі прыправамі, фінскія сахці, нават традыцыйны Guinness апынуцца па-за законам.

Што сапраўды неабходна, дык гэта закон, які прымусіць піваквараў пазначаць усе інгрэдыенты на этыкетцы (як гэта робіцца ў Скандынавіі). Спажывец будзе бачыць, што яму прадаюць, і рабіць выснову на падставе padadзенай інфармацыі. Не хацелася б, каб наш выбар піва быў абмежаваны сярэдневяковым законам, які быў прыняты для таго, каб забараніць у свой час баварскім сялянам-"самагоншчыкам" пераварваць у солад збожжа, прызначанае для вытворчасці хлеба.




Bayrisches Reinheitsgebot aus dem Jahre 1516

Wie das Bier Sommer und Winter auf dem Land soll gebraut und geschenkt werden.

Item Wir verordnen/setzen/und wollen/mit dem Rate unserer Landschaft/daß furan allenthalben im Fürstentum Bayern/auf dem Lande/auch in unseren Städten und Märkten/zu keinem Bier/mehr Stück/als allein Gersten/Hopfen/und Wasser/genommen und gebraucht werden sollen. Wer aber diese unsere Anordnung wissentlich übertreten und nicht einhalten würde/dem soll von seiner Gerichtsobrigkeit/dieses Faß Bier/zur Strafe unnachsichtlich/so oft es vorkommt/weggenommen werden. Wo ein Gäuwirt von einem Bierbräu in unseren Städten/Märkten/oder auf dem Lande/einen/zwei oder drei Eimer (=60 Maß) kaufen/und wieder ausschenken würde/an das gemeine Bauernvolk/soll ihm allein/aber sonst niemand erlaubt und unverboten sein/die Maß Bier um einen Heller teurer als vorgeschrieben ist/zu geben und auszuschenken. Auch uns soll als Landesfürsten vorbehalten sein/wo hier merkliche Beschwernis aus Mangel und Teuerung des Getreides vorfallen (nachdem die Jahrgäng auch die Gegend und Reife mit dem Getreide in unserem Lande ungleich sind) zu allgemeinem Nutzen Mäßigung zu verordnen.

**Арыгінал славутага "Закона аб чысціні піва" быў напісаны па-баварску. Мінулі стагоддзі, пакуль жыхары Гамбурга і Брэмена пры дапамозе братоў Грымаў разабралі каракулі мюнхенскіх аматараў піва.**

## "Закон аб чысціні піва" (пераклад)

"Мы валадарым, абвяшчаем і жадаем разам з Радай нашай зямлі, каб ад гэтага часу і па ўсёй зямлі Герцагства Баварыя, а таксама па ўсіх гарадах і на гандлёвых плошчах, што не маюць спецыяльных правіл, ад св. Міхаіла (*=29 верасня*) да св. Георгія (*=23 красавіка*) Масс (*=1,069 літра*) або Копф (*≈0,8 літра*) піва не прадаваліся б болей, чым за адзін пфеніг мюнхенскай валюты, і ад св. Георгія (*=23 красавіка*) да св. Міхаэля (*=29 верасня*) Масс піва не больш чым за два пфенігі той жа валюты, а Копф – не больш, чым за тры гелеры (*гелер = паўпфеніга*) пад страхам пакаранняў, пералічаных ніжэй. Калі хтосьці не варыць "Мартаўскае" піва, а варыць іншае, альбо робіць неяк інакш, то ён не павінен прадаваць яго болей, чым за адзін пфеніг за Масс. Але, перш за ўсё, мы настойваем, каб з гэтага часу і надалей нічога больш не выкарыстоўвалася для любога піва апроч ячменю, хмелю і вады ўва ўсіх нашых гарадах, на гандлёвых плошчах і па ўсёй зямлі. Той, хто наўмысна парушыць указ і не застанецца яму верным, павінен быць пазбаўлены магістратам ягонай бочкі піва ў якасці пакарання. Але калі ўладальнік пастаялага двара купляе адну, дзве альбо тры бочкі піва на якой-небудзь піваварні ў нашых гарадах, на гандлёвых плошчах і па краіне, а затым прадае яе простаму грамадзяніну, то яму (*гэтаму ўладальніку*) і толькі яму дазваляецца і не забараняецца прадаваць Масс або Копф піва на адзін гелер болей за тое, што пазначана вышэй."

## Што такое Kopf і Mass?

Пакуль нехта разважае, уводзіць ці не піўную тару аб'ёмам 0,33 л і меней на прасторах ад Смаленску да Уладзівастоку, нагадаем шаноўным чытачам, што нашыя продкі не ведалі, што такое "ўзяцьць 0,5 піва". Апыніся вы ў Вялікім княстве Літоўскім, то за такую прапанову вас выклікалі б на дуэль на шаблях. Бо кожны вяльможны шляхцюк ведаў, што калі й заходзіць у шынок, то трэба браць не менш за літруху адразу. Прыкладна такіх традыцый прытрымліваліся і ў тагачаснай Баварыі: зайшоў на бар – бяры Масс. Як не хапіла грошай (бывае) – тады Копф.



**“Я разумею, што Беларусь – краіна балот, але навошта з гэтай вады піва варыць?..” – С.Міхалок**

# Піва, якое нас здзіўляе

Месца пад куфаль піва

**Не адкрыем Амерыкі, калі скажам, што піваробства ў Беларусі знаходзіцца ў пачатковым стане. Параўноўваючы з Германіяй, Чэхіяй ды іншымі піўнымі краінамі, вядомымі сваімі векавымі традыцыямі, можна канстатаваць, што нашыя півавары кураць вялізны бамбук.**

І справа не толькі ў тым, што па колькасці і разнастайнасці гатункаў мы адстаем у дзесяткі, а можа і ў сотні разоў. Але і ў тым, што якасць гэтых самых нешматлікіх гатункаў, мякка кажучы, вымагае спадзявацца на лепшае. Большасць буйных броварaў вараць такое мляўе і аднастайнае пойла, што пасля трэцяй бутэлькі арганізм ужо пачынае супраціўляцца. Бываюць, канешне, перыяды прасвятлення. Напрыклад, пасля з’яўлення новай маркі пару месяцаў разліваюць даволі якасны прадукт, але потым ён становіцца такім жа шэрым і бязгустым.

І справа нават не толькі ў якасці сыравіны ці вады, але і ў структурным падыходзе да праблемы. Нельга ставіцца да сакральнага працэса стварэння піва, як проста да будзёнай працы. Наш мінус у тым, што яшчэ з савецкіх часоў фармалізм і бюракратыя пануе як у вытворчасці, гэтак і ў грамадстве. І нават новы прагрэсіўны мэнэджмент не ў стане адолець гэтую заганy. Можна, вядома, саслацца на тое, што існуюць жорсткія рамкі ў такой кансерватыўнай галіне, як выраб піва, але гэта не так. Калі падыйсці да гэтага пытання з агеньчыкам, з крэатывам, з энтузіязмам, – то і тут знойдзецца месца для сапраўднага мастака. Вось вам і доказы.




## 1. Bilk



**В ядома ж, пачнем з краіны ўзыходзячага сонейка – Японіі. Уладальнік піўнухі з Хакайда, каб дапамагчы вырашыць праблему лішкаў малака, прыдумаў піва “Bilk”. Рэцэпт просты – 70% піва, 30% малака. Вось толькі японцы не ведаюць, што нашыя спартоўцы, каб набраць вагі ды перайсці ў больш цяжкую катэгорыю, ужо здаўна дабаўлялі ў піва такі малочны прадукт як смятана.**

## 2. Pizza beer

**Хто б вы думалі вынайшаў піва-піццу? Не-не, не італьянцы, а амерыкосы. У якасці інгрэдыентаў тут выкарыстоўваюцца памідоры, цыбуля, часнык ды спецыі – арэгана і базілік. Карацей – боршч, а не піва. Ну што, чакаем з’яўлення ў нашай краіне бульба-піва?..**









## 3. Cannabia

**Немцы таксама адпалілі – выпусцілі цалкам легальнае піва з... насення канапель. Але гэта хутчэй рэкламны трук, бо як запэўніваюць вытворцы, каб “затырчаць”, трэба выпіць не менш за 10 бутэлек. Для забугорных спажыўцоў можа гэта і овердоза, а вось нашыя аматары могуць і дзве скрыні выжлукціць, толькі б адчыніць свае чакры.**

## 4. Krait

**Для інтэлігентных аматараў піва кампанія “Cobra Beer Inc” выпусціла піва-шампанскае “Krait Prestige Champagne Lager”. Разліваюць яго ў бутэлькі 0,75. Вытрымліваецца яно 2 тыдні, а моцнасці дасягаюць шляхам дабаўлення шампанскіх дрожджай. Нешта падобнае робяць умельцы з Валожынскага раёну, але іхні “лагер” атрымоўваецца не ніжэй за 42%.**









## 5. Chili Beer

**Калі не хапае вастрыні ў жыцці, падыйдзе пікантная навінка ад Cave Creek Chili Beer. У кожным сасудзе плавае цэлы чылійскі перац. Кампанія папярэджвае, што больш за 2 бутэлькі ўжываць небяспечна, але знаўцы кажуць, што і адной абсалютна дастаткова, каб атрымаць язву страўніка.**

[мінуўшчына]

Гісторыя старажытнага п'янства і разгільдзяйства

Ну, браце, як на смак, прызнайся?

Цудоўна, брат, і не пытайся!..

# АД ВАРВАРСТВА ДА СВЯТАСЦІ АДЗІН КУФАЛЬ

(Працяг. Пачатак у №1(3) ад 9.03.2010)



Руіны колішняга друідскага пабу пасля святкавання дня Святога Патрыка 2440—2100 да н. э.



Скульптурная кампазіцыя каля мястэчка Алезья. Аголеныя гальскія жанчыны заціраюць солад «Экстра» да свята Дажынак

**У папярэдняй публікацыі чытачы пазнаёміліся з першымі ўзгадкамі пра бурштынны напой. Мы ўжо ведаем, што археалагічныя доказы півaварэння былі знойдзены ў шумераў і датуюцца 7 тысячагоддзем да нашай эры. Таксама мы даведаліся, што ў Вавілоне існавала заканадаўства, якое рэгулявала прыгатаванне і продаж "сікару" (так яго называлі ў Міжрэччы). Верагодней за ўсё адсюль ячменны трунак трапіў у Персію, Малую Азію і да народаў Каўказу. У Егіпце піва, ці "зытум", як яго тады называлі, быў напоем "number one".**

І вось ўжо адтуль, дзякуючы стасункам егіпцян з іншымі рэгіёнамі Міжземнамор'я, рэцэпт піва трапіў у Еўропу. Праўда, на поўдні кантынента піва не карысталася такой павагай, як у Афрыцы ды Азіі. Тут усе здаўна ўжо жлукцілі віно і не збіраліся змяняць свае звычкі, а піва атрымала ролю таннага напою для ніжэйшых сацыяльных слаёў насельніцтва. Каб чытачу было больш зразумела, піва ў Рымскай Імперыі мела рэпутацыю бырла, даступнага сярэдняй рукі інтэлігенту-філосафу ці якой варварскай гапаце з паўночных крэсаў. Але няма ліха без дабра – менавіта праз рым-

## ПІЎНАЯ КУЛІНАРЫЯ

# Хвост бабра па-інквізітарску

**Вышэйшыя рэлігійныя заканадаўцы меркавалі, што раз бабёр жыве ў вадзе і мае лушчаты хвост, падобны да рыбінага, то ягонае мяса можна есці ў пост. Менавіта з-за гэтага пры кляштарах каталіцкае святарства ўтрымлівала адмысловыя арцелі лаўцоў баброў, якія пастаўлялі гэткі далікатэс на царкоўныя сталы. А тое, што бабёр – млекакормячы грызун лічылася ў тыя часы страшнай ерассю і вераадступніцтвам. Таму рознастайныя стравы, прыгатаваныя з бабровых хвастоў, з задавальненнем спажываліся чарнарызнікамі і добра заходзілі падчас строгіх пастоў пад піва, якое, як мы ўжо ведаем, таксама было "ў законе". Прадстаўляем нашым чытачам адзін з манастырскіх рэцэптаў, захаваўшыхся да нашых дзён.**

Вам спатрэбіцца:
*2 бабровых хваста*
*0,5 цёмнага піва*
*1/2 шклянкі воцату*
*1 сталовая лыжка солі*
*1/4 чайнай лыжкі перцу*
*1 чайная лыжка сухой гарчыцы*
*1 чайная лыжка цукру*

Бабровыя хвасты ачысціць ад скуры і добра прамыць. Пакласці хвасты ў глыбокі шкляны посуд, змяшаць цёмнае піва з гарчыцай, цукрам і перцам, заліць вадой з дабаўленнем 1/2 шклянкі воцату і 1 сталовай лыжкі солі і пакінуць на ноч.

Смажыць на драўляных вуглях, лепш за ўсё бярозавых, час ад часу паліваць цёмным півам, каб збіць тэмпературу і не перасушыць прысмаку.

Дачакаўшыся, калі хвасты набудуць прыгожы бронзавы колер, кладзем іх на вялікае блюда і наразаем тонкімі лустамі. Зеляніна, лімон і гародніна – на ваш густ. Напаўняем куфлі ўсё тым жа цёмным піўком і – смачна есці!!!



Набор інквізітара: піва, бабраціна, нож, ну і канешне – мабіла!

лян, дзякуючы іх заваёўніцкай палітыцы, піваварствам заняліся шматлікія плямёны еўрапейскага кантынента. Тут, здаецца, ўсё зразумела – клімат быў больш спрыяльны для вырошчвання збожжавых, чым вінаграднікаў, а дзён народзінаў, вяселляў, перамог над ворагамі дый іншых падстаў выпіць ніхто не скасоўваў.
На Апенінскім і Іберыйскім паўвостравах (сучасныя Італія ды Іспанія з Партугаліяй) піва называлася "cervesia", у гонар багіні ўраджаю Цырцэі, за якую шчодра ўздымалі поўныя келіхі на тамтэйшых "Дажынках". У Галіі на пачатку нашага тысячагоддзя рабілі напой "карма", які захаваўся ў паўночнай Францыі і Бельгіі аж да XIX стагоддзя. Менавіта жыхарам Галіі мы павінны быць удзячнымі вынаходніцтву драўляных кегаў, якія ў тыя часы называлі бочкамі. Адбылося гэта з той прычыны, што галы любілі з'ездзіць на госці кудынебудзь да далёкіх родзічаў са сваім "чароўным эліксірам". Драўляная тара дазваляла давезці прадукт у цэласці і захаванасці. Да таго ж, аматары паласавацца ў дарозе ўжо не маглі зваліць адсутнасць



паловы грузу на крохкасць гліняных сасудаў. Таксама вядома, што гонар прыгатавання піва быў ускладзены на жанчын. Акадэмічная навука называе гэта "гонарам", але, цвяроза разважаючы, разумееш, што патрыярхат ужо тады моцна ўсталяваўся ў гальскім грамадстве і мужыкі звалілі на плечы жанчын акрамя прання, гатавання ежы і выхоўвання дзяцей яшчэ й варэнне піва – ідэальны варыянт сямейнага шчасця!
Старажытнарымскі ўрач грэчаскага паходжання Педаній Дыяскарыд згадваў у І стагоддзі нашай эры пра ячменны напой "курмі" з дадаткамі розных зёлак, якія гатавалі ў Ірландыі. Заменай хмелю служылі кветкі вераса, маладыя парасткі лазы, палын, ягады лаўра. Знакаміты гісторык Публій Карнелій Тацыт у сваім трактаце "Пра германцаў" прапаноўваў перамагчы варвараў, што абклалі імперыю, не кап'ём і мячом, а… пастаўкамі піва!!! Нажаль, геніяльная прапанова не праканала. Бо з прымяненнем такой стратэгіі вядзення войн чалавецтва магло б пазбегнуць стольких ахвяр ды ваяваць стратэгічнымі бочкамі сабе на здароўе. Але і тады антыпіўное лобі не дазволіла прыняць прагрэсіўны закон. Мала таго, паводле звестак некаторых даследчыкаў знакаміты выраз раней гучаў як "Хлеба і піва і відовішчаў", і толькі потым імператарская цэнзура выкрэсліла з яе самае галоўнае слова.
Хоць у тым ці іншым варыянце піва існавала ў многіх народаў з далёкіх часоў, менавіта хмель дазволіў яму працягнуць сваё гістарычнае развіццё ў дакладным напрамку. Хмель трапіў у Еўропу падчас Вялікага Перасялення Народаў (V-VIII стагоддзі). Цалкам верагодна, што першымі, хто пачаў ужываць хмель для варэння піва, былі нашы прародзічы – славянскія плямёны. Яны жылі на тэрыторыі цэнтральнай і паўднёваўсходняй Еўропы, якая лічыцца радзімай хмелю – травяністай расліны сямейства канаплёвых. Першапачаткова хмель ужываўся нароўні з іншымі травамі, карэннямі ці іншымі дабаўкамі. Можа ён так і застаўся б адным са шматлікага шэрагу інгрэдыентаў, але па волі божай царква звярнула ўвагу да шырока спажываната напою. Рымскі папа блаславіў служыцеляў культу на богаўгодную справу. Ад самога Карла Вялікага, вядомага аматара здзьмуць пену, манастыры атрымалі права і прывілеі на прыгатаванне ўласнага піва. Паводле рэлігійных законаў дазвалялася піць піва нават у пост. "Liquida non frangunt jeunum" ("Вадкасць посту не шкодзіць") – пад гэтыя святыя словы манахі ўздымалі поўныя куфлі, нават у самыя суровыя рэлігійныя святы. Не дзіва, што колькасць служкаў Бога павялічвалася ў геаметрычнай прагрэсіі, а тыя хто не патрапіў пастрыгчыся ў манахі, са злосці кінуліся ў ерась. Вось тады, дзякуючы "сістэматычным даследаванням і запісам", а таксама частаму "трыванню паста", ды параўнанню бадуноў ад розных гатункаў піва, быў падмечаны прыемны гаркаваты густ ды зусім нецяжкі адхадняк, пасля чаго пісьменныя святыя браты змаглі гэта запісаць для будучых пакаленняў. А манахі-пілігрымы, якія разносілі Слова Божае па Еўропе (тады межы мелі толькі сімвалічнае значэнне) вандравалі, наведвалі сваіх субратоў у іншых манастырах і тым самым разносілі вестку пра лекавае піва на аснове хмелю па Еўропе. Такім чынам, з бласлаўлення вядомай прарочыцы Хільдэгарды Бінгенскай хмель стаў асноўным кампанентам у манастырскай піваваранай вытворчасці. Менавіта людзі ў рызах пачалі шырока культываваць хмель. У тыя ж стагоддзі, дзякуючы нізкай тэмпературы манастырскіх падвалаў было вынайдзена нізавое браджэнне, з дапамогай якога варацца ўсе сучасныя лагеры. Да таго ж з-за антысептычных уласцівасцяў хмелю павялічылася магчымасць захавання і транспарціроўкі піва, што дало добры штуршок гандлю рэштамі манаскіх запасаў. Якаснае пітво трапіла ў шырокія масы і было прынятае "на ўра". Але царкоўнікі ўмелі захоўваць свае сакрэты – для таго, каб адкрыць новую формулу, свецкім спатрэбілася пару стагоддзяў ды ўмяшальніцтва ўплывовага еўрапейскага палітыка і інтрыгана герцага бургундскага Жана Бясстрашнага. (Не цяжка здагадацца, за што яснавяльможны нобіль атрымаў сваю мянушку – пасля двух-трох куфляў усе становяцца непераможнымі альбо бясстрашнымі.) З'яўляюцца першыя гільдыі півавараў, развіваецца хмеляводства, узнікаюць новыя бровары. Легендарны Гамбрынус, патрон усіх аматараў піва, стаў сімвалам той бурнай эпохі.
У Германіі хмелем бралі нават падатковыя пошліны. Паступова ён ператварыўся амаль у адзіную еўрапейскую валюту, якая, як і зараз еўра, не закранала толькі Англію – там хмель быў забаронены да 15 стагоддзя.
У Сярэднявеччы піва дасягнула піку свайго росквіту, яно стала сапраўды народным напоем, пераўзышоўшы па спажыванні нават ваду (!!!). Гэта адбылося дзякуючы таму, што спосаб прыгатавання піва дазваляў пазбавіцца хваробатворных бактэрый, у адрозненні ад вады, якая часцяком была прычынай узнікнення эпідэмій чумы і халеры. Але трэба зазначыць, што сярэднявечнае піва не заўсёды было бясшкодным для здароўя, як у нашыя дні. Галюцынагенныя алкалоіды, якія ўваходзілі ў яго склад, маглі выклікаць галюны, што паслужыла прычынай многіх забабонаў. Напрыклад, да канца XVI стагоддзя практыкавалася спальванне "піўных ведзьмаў", якіх абвінавачвалі ў псаванні піва. Зразумелыя пачуцці людзей, якія толькі адчыніўшы бочачку півасу і адчуўшы скіслы водар, скемлівалі – "кіна не будзе". Але пры чым тут кабеты? Ясна, што справа была-ткі ў недасканалай тэхналогіі.
Увогуле ў тыя часы піваварэнне распаўсюджвалася ды квітнела. Нарэшце, у 1516 годзе ў Баварыі прымаюць закон аб чысціні піва, у якім чорным па белым было напісана, што асноўнымі кампанентамі, з якіх належыць варыць піва, з'яўляюцца вада, ячменны солад і хмель. Самае цікавае, што гэты закон існуе дагэтуль і з'яўляецца самым старым дзеючым прававым актам у свеце! Праўда, нельга сказаць, што з прыняццем гэтага закона піўвары ў іншых частках Еўропы страцілі магчымасць для эксперыментаў па ўдасканаленні пеннага напою. Шмат цікавых вынаходніцтваў ды нестандартных рашэнняў чакала гэтую галіну ў бліжэйшым будучым...

**(Працяг будзе)**






**Не падзялілі паўтарачку. Гравюра пачатку сярэдзіны канца XII ст.**



**Рымскія легіянеры бароняць апошнюю бочку піва ад германскіх варвараў. Познерымскі перыяд**

**Прылады сярэдневечных півавараў. У ваенны час яны служылі зброяй для работнікаў бровара**



[спорт]

**ФІНСКАЯ ЖАНОЧАЯ ЗБОРНАЯ ПА ХАКЕІ, ШТО ПЕРАЙШЛА ДАРОГУ Ў ДУШ НАШЫМ ХЛОПЦАМ НАПЯРЭДАДНІ ВЫРАШАЛЬНАГА МАТЧУ З ШВЕЙЦАРЫЯЙ, СТАЛА БРАНЗАВЫМ ПРЫЗЁРАМ АЛІМПІЯДЫ.**




# БЛАГОМУ ТАНЦОРУ...

**Мінуў цэлы месяц пасля заканчэння алімпіяды, адгрымелі фанфары, затушаны алімпійскі агонь і нават снег ужо паспеў растаяць як у нас, так і ў далёкім Ванкуверы. А вось каля спартыўных жарсці і не думаюць сціхаць.**

Больш за ўсё дасталося хакеістам начале з Міхаілам Захаравым. Байнэт аж стракацеў гнеўнымі каментарамі раз'юшаных балельшчыкаў. Як толькі не ганьбілі яны галоўнага трэнера. Арганізавалі збор подпісаў з мэтай яго адстаўкі, успомнілі нават даўно забытае слова "імпічмент". І не дзіва – пасля некалькіх гадоў працы Глена Хэнлана аматары хакея прызвычаіліся да перамог. А тут усяго толькі адна перамога над немцамі і як вынік – пралёт міма васьмёркі мацнейшых. Вось і рэакцыі зверху не прышлося доўга чакаць. На нарадзе па пытаннях развіцця айчыннага хакея Прэзідэнт даў ацэнку выступленню зборнай:

"У меня это выступление вызывает не только обеспокоенность, но и неудовлетворенность из-за отсутствия выверенной стратегии развития хоккея накануне предстоящего чемпионата мира 2014 года в Минске".

Але і ММЗ не палез за словам у кішэню і выказаўся наконт арганізатараў Алімпіяды:

"Условия подготовки к решающему матчу были отвратительными. Сначала в раздевалке не было стульев, а хоккеистам приходилось ходить в общественный туалет, который находится где-то в 50 метрах. Затем запустили женскую сборную Финляндии. Они безо всякого стыда ходили обнаженными. От наших игроков их прикрывала лишь небольшая ширма. И всё это перед решающим матчем. Наши ребята были в негодовании, ломали клюшки. Неужели нельзя было перенести их тренировку на 30 минут? И всё это из-за того, что канадцы не смогли сразу выйти в 1/4 финала. Почему я должен молчать, когда так обращаются с командой нашей страны? Никогда прежде не видел подобной организации".

Ноў коментс, як той казаў. Нагадаем, што жаночая зборная Фінляндыі заваявала на Алімпіядзе бронзавыя медалі. І тут узнікае пытанне, як сябе адчувалі ў тойсама сітуацыі фінскія хакеісткі. Наўрад ці ім было даспадобы такое суседства. А раптам яны таксама пераламалі ўсе свае клюшкі, калі бачылі распранутых беларускіх хакеістаў? Хто ведае, можа яны і на верхнюю ступень здолелі б узняцца, калі б не суседства з нашымі хлопцамі.



Удзельніцы зборнай арганізавана накіроўваюцца ў душ. Пасля такога відовішча беларускім спартоўцам было ўжо не да хакею...



А гэты хакеіст так і застаўся ў прастрацыі да канца матчу. Ён так і не здолеў зламаць сваю клюшку...



## На трыбунах становіцца ціха...

**МУС Беларусі працягвае наступленне на піўную галіну па ўсіх франтах. Намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення правапарадку Віктар Палей выступіў супраць продажу і ўжывання піва на спартыўных аб'ектах краіны.**

Адбылося гэта на штогадовай нарадзе па пытаннях бяспекі на стадыёнах. Маўляў, стадыён – гэта таксама грамадскае месца, да таго ж, большасць балельшчыкаў, якія набылі піва, свае месцы на трыбунах ужо не займаюць. Хацелася б пабачыць такога казачнага балельшчыка, які спачатку аддае такія бабкі за білет, а потым тупа праседжвае ўсю гульню ў буфеце. Гэта ж вам не "Лебядзінае возера" якое, гэта ж спорт!

Ды і чаго спадарам з міністэрства хвалявацца, усё роўна піва прадаюць толькі на адным спартыўным аб'екце – Мінск-арэне. А гэта, як вядома, стратэгічнае месца, яго акупаць трэба. А Чэмпіянат свету па хакеі ўжо зусім хутка – у 2014. Уявіце, ці захоча просты нямецкі ці чэшскі балельшчык набываць білет, запарвацца з візамі, калі даведаецца, што тут нельга папіць піва. Вядома ж не. Так што раім грунтоўна абдумаць гэты крок і не прымаць паспешных рашэнняў.

# Глен Хэнлан: Мы яшчэ сустрэнемся!




**Былы трэнер зборнай Беларусі па хакею Глен Хэнлан узначаліць зборную Славакіі.**

Нагадаем, што канадскі спецыяліст сумяшчаў працу ў мінскім "Дынама" з працай у зборнай, але пасля звальнення з "Дынама" вырашыў пакінуць і нацыянальную каманду. Пад яго кіраўніцтвам на Чэмпіянаце свету'2006 нашы хакеісты дасягнулі найлепшага выніку ў сваёй гісторыі – шостага месца. А ў мінулым годзе дайшлі да ¼ фінала і занялі 8-е месца, выйграўшы перад гэтым у тых жа славакаў. Але паводле ацэнак экспертаў не гэта стала галоўным дасягненнем канадца, а тое, што ён змяніў псіхалогію нашых гульцоў. Ён прымусіў іх паверыць у свае сілы, у тое, што любога праціўніка можна перамагаць.

Іронія хакейнага лёсу заключаецца яшчэ і ў тым, што ў сёлетнім чэмпіянаце, які пройдзе ў Германіі з 7 па 23 траўня, мы трапілі ў адну групу са Славакіяй. Можна толькі здагадвацца, як спадар Хэнлан прагне даказаць свой узровень беларускаму хакейнаму кіраўніцтву, якое гэтак з ім абыйшлося. І ёсць поўныя падставы лічыць, што дакажа.




# Гандурас турбуе нас




**Футбольная зборная Беларусі пачала падрыхтоўку да адборачнага цыкла Чэмпіянату Еўропы'2012, які пройдзе ў суседняй Украіне. У рамках гэтай падрыхтоўкі напрыканцы траўня нашы футбалісты згуляюць таварыскую сустрэчу са зборнай Гандураса.**

Трапныя на кпіны інтэрнэтчыкі ўжо паспелі ахрысціць гэты матч "гандураскім дэрбі", якое не будзе простай прагулкай. Супернік нам дастаўся не з лёгкіх – 35-я пазіцыя ў рэйтынгу ФІФА, у той час як мы ўсяго на 79-й. Калі што не так – адразу ў бойку лезуць. І гэта не жартачкі.

У 1969 годзе дайшло нават да вайсковага канфлікту з Сальвадорам. Непасрэднай зачэпкай тады стаўся пройгрыш каманды Гандураса камандзе Сальвадора ў матчах плэй-оф адборачнага этапу. У гісторыю гэтая 6-дзённая кампанія ўвайшла пад назвай "Футбольная вайна".

Так што паакуратней там, на ражон лезці не трэба – матч усё ж такі таварыскі. А вось увосені нас чакае яшчэ больш сур'ёзны супернік. Нагадем, што згодна жараб'ёўцы мы трапілі ў адну групу з Люксембургам, Албаніяй, Босніяй і Герцагавінай, Румыніяй і ўрэшце рэшт Францыяй. І калі з румынамі ды балканцамі і ёсць хоць якія-ніякія шанцы, то французы, відавочна, адгандурасяць нас па поўнай.

# Чэмпіёны з прабіркі

Глянь які вяртлявы! Відаць, будучы Шчэрба

**Моднае сёння хваля інавацый дабралася і да нашага спорту. Спецыялісты цэнтра "Маці і дзіця" сумесна з Інстытутам генэтыкі і цыталогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі пачалі праект па вывучэнні генаў чалавека, адказных за развіццё фізічных здольнасцяў.**

Навукоўцы хочуць з дапамогай ДНК выявіць будучых чэмпіёнаў. Будуць набраныя дзве адмысловыя групы валанцёраў. У адну ўвойдуць спартоўцы, якія ўжо дасягнулі значных вынікаў, а ў другую – звычайныя людзі. Ува ўсіх удзельнікаў возьмуць матэрыял для даследавання ДНК, каб вызначыць схільнасць да таго ці іншага віда спорту.

Пасля завяршэння эксперыменту, які разлічаны на 3 гады, даследчыкі маркуюць атрымаць інфармацыю, якія гены адказныя за поспехі, напрыклад, спрынтэраў ці барцоў. І ўжо з дапамогай гэтай інфармацыі мэтанакіравана трэніраваць будучых несцярэнак ды мядзведзяў. Толькі можна і без гэтых марудных эксперыментаў абыйсціся, а проста браць чэмпіёнаў ды кланіраваць. Тады дакладна на бліжэйшае стагоддзе ўсе медалі будуць нашымі.

## АДНЫМ РЫЎКОМ

### ГТО




Міністэрства спорту вырашыла адрадзіць нормы спартыўнага і патрыятычнага выхавання па прынцыпу савецкага ГТО. Ганаровы значак будзе называцца "Фізкультурнік Беларусі". Карацей, "Хутчэй, вышэй, мацней", дарагія таварышы.

### Навабуд



У 25-тысячным Лунінцы пачалося будаўніцтва лядовай арэны з канадскай хакейнай пляцоўкай і трыбунай на 500 месцаў. Цяпер у перапынку паміж праполкай бульбы і зборам клубніц палешукі з радасцю будуць ганяць шайбу ды выдаваць трайныя тулупы і падвойныя акселі.

### Трансферы



З'явілася інфармацыя пра інтарэс да Аляксандра Глеба з боку англійскага "Манчэстэр-Сіці". Але мэнэджэр гульца паведаміў, што пасля заканчэння сезона за "Штутгарт" ён дакладна вернецца ў Барселону. Там ужо падрыхтавалі яго ранейшае месца на лаўцы запасных.

### Біятлон



Нарэшце наладзілася стральба ў Дар'і Домрачавай. Да алімпійскай бронзы яна дадала яшчэ 4 медалі на этапах Кубка свету: 2 золаты ў фінскім Конціалахці і 2 срэбры ў нарвежскім Халменколене, дзякуючы чаму ў агульным заліку яна паднялася на 6-е месца.

### Талісман




Юніёрскі чэмпіянат свету па хакеі, які пройдзе ў красавіку ў Беларусі нарэшце набыў свой талісман – ім стаў буслік. Імя таксама падабралі "арыгінальнае" – Буслік Хакеевіч Клюшкін.

У інтэрнэце ўва ўсю абмяркоўваецца, ці гэта праплачаная акцыя сеткі супермаркетаў для дзяцей "Буслік", альбо звычайнае супадзенне. Адначасова федэрацыя праводзіць конкурс на стварэнне талісману Чэмпіяната свету'2014 сярод дарослых. Балельшчыкі ўжо баяцца, што ім можа стаць лагатып "Два буслы". А пра яго імя ўвогуле лепш не думаць.

[захмялелыя ручкі]

# АлкаГоль на выдумку хітра!

**З прыходам вясны прачнуліся ад спячкі аматары выпіць піўка на вуліцы – то бок у грамадскіх месцах. Якіх толькі спосабаў яны не напрыдумляюць, каб абыйсці закон. Супрацоўнікам адпаведных органаў трэба быць асабліва пільнымі, каб вылічыць гэтых адорвышаў ад нармальных людзей.**




## Сітуацыя 1. “Аматар соку”

Выкарыстоўваецца:
бутэлька піва 0,5 л;
пачак з-пад соку на 1 л;
скотч;
нож з лязом не болей за шырыню далоні.

2

“Півуны” маскіруюцца пад законапаслухмяных прыхільнікаў здаровага ладу жыцця, выкарыстоўваючы для гэтага пакеты з-пад соку. Элегантна адразаюць верхнюю частку, устаўляюць унутр бутэльку, адрываюць пластыкавую крышку і высоўваюць праз дзірку горлышка . Адзін абарот скотчам – і гатова.




## Сітуацыя 2. “Падагрэты фанат”

Выкарыстоўваецца:
бутэлька піва 0,5 л (можа болей);
грэлка на 1-2 літры;
шланжык даўжынёй 1 метр.










“Півуны” прыгадалі дзедаўска-бацькоўскі спосаб праносу паліва на стадыён. Для гэтага яны бяруць з хатняй аптэчкі грэлку, пераліваюць у яе піва, устаўляюць шланжык і засоўваюць грэлку за пазуху. У такім выглядзе, нікога не саромеючыся, ідуць на трыбуну і ўва ўсю шызяць за любімую каманду.




Газета зарэгістраваная Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 24.06.2009 г. за №531

**Галоўны рэдактар: Паўлюк Канавальчык**

Заснавальнік і выдавец: Установа Інфармацыйна-выдавецкае агенцтва “ПостМедыя”

Юрыдычны адрас: 220005 г.Мінск, пр.Незалежнасці, 58-417
Тэл./факс: +375 17 292 88 77
Адрас для карэспандэнцыі: 220034 г. Мінск, п/с 1
Электронны адрас: gazeta@piunaya.by
Дадатковую інфармацыю можна знайсці на афіцыйным сайце газеты: **piunaya.by**

Адказнасць за змест рэкламы нясе рэкламадаўца.

Матэрыялы, што публікуюцца ў рубрыках “Цікава пакаштаваць”, “Аматарам піва”, “Дэгустуем разам” друкуюцца на правах рэкламы.

Пры передруку матэрыялаў спасылка на газету абавязковая.

Газета надрукаваная ў РУП “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”, Ліцэнзія №02330/0494179 ад 3.04.2009 220013 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79

**Тыраж 3200 экз.**

Нумар падпісаны да друку: 30.03.2010 г. а 19:02:47
Заказ № 1520